ЛЁС ЧАЛАВЕКА

# „Я не забіваў, мама!"

## 1.

НАСЦЕННЫ ГАДЗІННІК у разным драўляным корпусе адбіў поўнач. Але сон не ішоў. «Госпаду Богу памалюся,— замільгала ў свядомасці прывычная, самародная, з болю душэўнага выйшаўшая малітва. — Прачыстай Дзеве пакланюся. Божая Маці, скажы мне ўсю праўду. Калі жывы мой сын, — няхай прысніцца жывым, калі згубіла яго, — няхай з'явіцца мёртвым...»

Несправядлівы суд адабраў сына ў гаспадыні дома дванаццаць гадоў назад. Яму — вышэйшая мера, ёй — кляймо «маці забойцы».

Плакала начамі. Тушыла слязамі апаленае, разарванае сэрца. У шэрым балахоне ўваходзіў у кватэру пахмурны світанак — гэта быў новы кат. Удзень адыходзіла ў бок ад людзей. Гнулася нават пад спачувальнымі поглядамі. І баялася моста. Вады пад мостам. Карагода смерці, што мроіўся ў светлых струменях, і клікаў, і абяцаў лёгкі канец.

Не кінулася. Не ўзяла грэх на душу. Нават Бога, якога пракляла страшэнным мацярынскім праклёнам, вярнула ў малітву, што складалася сама па сабе.

Толькі вось бокам абыходзіў яе прагныя сны пакутнік Мікалай. За дванаццаць гадоў толькі адзін раз з'явіўся на мацярынскія слёзы. У белай сарочцы. У чорным касцюме.

— Дзе ж ты хадзіў так доўга, сынок?

— Была справа, мама...

Нядобрай памяці «віцебская справа», якой яшчэ доўгія гады старыя законнікі будуць пужаць маладое пакаленне юрыдычных факультэтаў.

Трыццаць тры задушаныя жанчыны. Сто семдзесят пяць тамоў следчых матэрыялаў. Няшмат прыкладаў такога ненажэрнага вампірызму можа прыгадаць айчынная і сусветная крыміналістыка.

Ёсць і іншы трагічны рахунак. Чатырнаццаць гадоў хітры і з разлікам пярэварацень вёў паляванне на людзей. І чатырнаццаць гадоў — у год па чалавеку — жорны беззаконнасці перамолвалі лёсы невінаватых, калечылі іх целы і душы. Крыўда ставіла праўду на правеж. Падганяемая бязлітасным бізуном ісціна блукала ў лабірынтах самаагавораў. Людзі ішлі па этапе двайнікамі маньяка Міхасевіча толькі таму, што так трэба было крывому люстэрку тапорнага вышуку і раўнадушнага суда.

Сёння ахвярам следчага і судовага самавольства вернута добрае імя. Гэта адзіная кампенсацыя, якая аказалася пад сілу дзяржаве. Рэабілітаваны і Мікалай Цярэня — пасмяротна. А «віцебская справа» разбухла яшчэ на сто дзесяць тамоў. У іх у вялікай колькасці матэрыялы на следчых, абвінаваўчыя філіпікі супраць пракурораў, судовыя іскі да прафесіяналаў судаводства.

Выязной сесіі Магілёўскага абласнога суда прыйдзецца аналізаваць гэтыя тамы ў Наваполацку каля года, — так лічаць спецыялісты ў галіне юрыспрудэнцыі. Памагай Бог! Няхай мерай вінаватым у наўмысных злоўжываннях або трагічных памылках будзе толькі Закон, праваднікам у вельмі цяжкіх і шматмесячных спрэчках — святло Ісціны. А мы вернемся ў полацкую кватэру маці Мікалая Цярэні і прадоўжым наш сумны расказ.

## 2.

СТАТНАЯ, ЭНЕРГІЧНАЯ, упэўненая ў сабе, Наталля Паўлаўна не з тых, каго згінае жыццё. Але непапраўная страта завастрыла рысы твару. Дзве глыбокія баразны — у абвод строгага тонкагубага рота — ляглі ад крылаў носа да падбародка. Але гэта — усё. Пытлівая сталь у шэрых вачах ужо ад характару, ад няўступчывай крыві.

«...У сорак трэцім аб'явілі набор у Германію. Староста запісаў Надзю, маю меншую сястру. Бяскрыўдную, спакойную. Такой Нямеччына — немінучая смерць. На хатняй нарадзе вырашылі адправіць мяне. Як самую баявую з чатырох сясцёр... Вырашана — зроблена. Раніцай назначанага дня прыйшла я з рэчамі на зборны пункт. Ён размяшчаўся там жа, дзе і камендатура, — у Нараўлянскім гарвыканкаме. Сабраўся народ. Пачалася рэгістрацыя. Тут я загарэлася сэрцам: адзначуся — і пабягу!..»

Два моцныя паліцаі, налітыя першаком і злосцю, насціглі ўцякачку ў гарадскім парку. Збілі з ног і сталі біць гумавымі бізунамі. Пакуль была ў прытомнасці, Наташа баялася аднаго: скалечаць твар. І як магла закрывала яго локцем, выкручваючыся пад ударамі азвярэлых канваіраў. Апошняе, што памятала, жалезісты смак крыві, якая хлынула горлам. Нямецкія прыхвасні падхапілі беспрытомнае цела і, праваложшы па вуліцах прыціхлай Нароўлі, кінулі збітую дзяўчыну пад плотам бацькоўскага дома. Паміраць, як думалі яны. Але моцны ад прыроды арганізм Наташы ўзяў сваё, яна выжыла. Паўтара месяца выходжвала яе маці на гарышчы, пакуль не паставіла на ногі. Але выйшла, што вылечыла для новай адпраўкі ў Германію.

«...У вагоне для цялят набілася нас чалавек шэсцьдзесят — семдзесят. Хлопцы, дзяўчаты — усе разам. На падлозе салома мокрая, на ёй ляжым... Недзе пад Брэстам разбамбілі дарогу. Ходу наперад няма — састаў загналі ў тупік. Тут, пакуль трое сутак стаялі, мы і дамовіліся бегчы. Усе — аднакласнікі, дзесяцігодку разам канчалі. Папрасіліся нібыта па сваіх справах — канвой адпусціў. Была восень, мох на балоце калючы ад марозу. А мы ж босыя: як ляжалі ў вагоне, так і выскачылі... Немец ходзіць туды-сюды ля колаў, нос схаваў у каўнер, пасвіствае. Я яму: найн, найн — не глядзі, маўляў, сароме юся. А сама — прабачце! —паліто ззаду падняла і нібыта месца добрага шукаю... Крок, другі, яшчэ паўкроку, ад кусціка ды за кусцік — так і зніклі. Утраіх: дзве дзяўчыны і хлопец. Бяжым, чуем — ззаду крычаць, свішчуць, сабакі брэшуць, надрываюцца. Яшчэ хутчэй пабеглі. З аўчаркамі якія жарты: даганяць — разарвуць...»

Лёс пашкадаваў уцекачоў. І добрыя людзі не выдалі. Пад страхам смерці ад помслівай рукі акупантаў дапамагалі, хто кавалкам дранага бліна, хто ўласнага вырабу лапцямі. Пасля двух тыдняў бадзяння па голых лясах прыняла іх Нароўля глухой цёмнай ноччу. Схавала. І ад нячыстага вока фашысцкіх прыхвасняў, і ад карніцкай кулі. Пасля другой папраўкі на гарышчы шлях у Наташы быў адзін — да партызан...

Мікалай Цярэня быў парасткам ад мужнага, жывучага кораня. Такія ўмеюць трымаць боль у сціснутых зубах, не адразу ломяцца. Але — зламалі. Не ў прыклад ганарлівым тэўтонцам і паганцам з нашых, якія, збіваючы пугай і прыкладам рабочую жывёлу для трэцяга рэйха, двойчы апякліся на яго маці. Як зламалі, аб гэтым будзе сказана ў сваю чаргу.

## 3.

МІРНАЕ ЖЫЦЦЁ нядоўга песціла спакоем і дастаткам Наталлю Паўлаўну. Вывучылася ў Мазырскім педагагічным тэхнікуме. Выйшла замуж за дамавітага, ціхага чалавека. Ён — франтавік, яна, як усе нявесты абрабаванай вайной Беларусі, без пасагу. На ногі падсапраўднаму сталі на цаліне, у кустанайскіх стэпах. Вярнуліся з працоўнымі медалямі. Ды і грошай накапілі.

Спачатку пажылі на радзіме Сцяпана, у Асвейскім раёне. Потым перабраліся ў Полацк. Прыгледзелі добры цагляны дом. Купілі. Жыць бы не сумуючы ў новай хаце, гадаваць дзяцей — але не, чорнай кошкай перабегла дарогу сямейнаму шчасцю бяда.

Мужа разбіў параліч. Восем гадоў Наталля Паўлаўна была свайму Сцяпану сядзелкай. Карміла з лыжачкі, як малое дзіця. Мыла, трымала ў такой чысціні, што патранажныя сёстры і ўрачы здзіўляліся. Сама і вочы закрыла небараку, калі той памёр.

У народзе кажуць: бяда не ходзіць адна. Параліч бацькі зваліў і сына. Жорстка. Непапраўна. Але гэта стане ясна пазней. А тады, калі адбылася бойка ў клубе вёскі Бельчыцы, галоўнай прычынай аказаліся разбітыя вокны.

У групавой сутычцы было шмат удзельнікаў. Але бацькі іншых хлопцаў у час занепакоіліся, аберагалі ад пакарання законам. Не ставіла пытанне аб замене шкла ў крымінальную плоскасць і загадчыца клуба. Ва ўсякім выпадку, на першым часе. Такое дзіва — хлопцы пабіліся. У вёсках спрадвеку сценка на сценку хадзілі, і вялікага грэху ў такой праяве моладзі не бачылі. Загадчыцы, як усякаму добрасумленнаму адміністратару, было важна не дапусціць псавання казённай маёмасці. Пабілі вокны — дык устаўце шкло за свой кошт. Вось што хацела яна прапанаваць бацькам Мікалая, калі стукалася ў дзверы яго дома.

Прыкаваны да пасцелі, бацька не мог адчыніць іх. А ўвечары толькі і паведаміў вінаватымі вачамі, што ўдзень хтосьці прыходзіў і пайшоў, не дастукаўшыся. Ускалыхнуцца б мацярынскаму сэрцу пры гэтай вестцы, убачыць нябачнае! Але, разрываючыся паміж работай, трыма дзецьмі і хворым мужам, Наталля Паўлаўна не пачула бяды, што навісла над сынам.

У ходзе судовага разбору Мікалай усё ўзяў на сябе. І служкі закона ўраўнаважылі пабітае шкло на вагах Феміды двума гадамі пазбаўлення волі. Фармальна — двума, а фактычна чорная меціна суровага прыгавору ўручана была хлопцу бестэрмінова. Судзімасць з часам ператварылася ў нябачнага стваральніка анкетнага сексота полацкай міліцыі, які ні на крок не адставаў ад Мікалая, усё больш пераконваючы яго, што ў гэтым горадзе нармальнае жыццё яму заказана.

Ён не быў анёлам, выпіваў. Напэўна, грашыў і супраць іншых хрысціянскіх дабрачыннасцей. Як час ад часу грашым усе мы. Але давайце на адно толькі імгненне ўявім сабе і становішча дзяжурнага, на якога не вельмі зычлівыя хлопцы гатовыя начапіць любое нераскрытае злачынства, — і ўсе ранейшыя нашы клопаты здадуцца нам дзіцячымі цацкамі.

Празмерная прыліпчывасць міліцыі, пагрозы з вока на вока не ў разлік — гэтыя чырвоныя сцяжкі спарахнелі на сырым ветры часу і цяпер недаказальныя. Здаралася ў адносінах Мікалая Цярэні з органамі правапарадку і штосьці больш істотнае. Напрыклад, насільная смерць, якую, па словах маці, прымервалі да яго задоўга да забойства палачанкі Шайпук, адной з ахвяр Міхасевіча. Тыдзень правёў тады Цярэня на казённых харчах у камеры папярэдняга зняволення. Чакаў самага горшага. І, бадай, дачакаўся б, калі б не трапіў у рукі правасуддзя сапраўдны забойца. Неабавязковасць, поўная незалежнасць такой развязкі ад выпадку канчаткова пераканалі Мікалая, што полацкі клімат для яго смяротна небяспечны

Сёння Наталля Паўлаўна не можа без пакут раскаяння ўспамінаць, як ірваўся ён з гэтага горада, а яна, не жадаючы губляць сына з поля зроку, стрыножыла яго, утрымлівала як магла. У ліпені 79-га, за два месяцы да арышту, сабраўся ён, падганяемы дрэннымі прадчуваннямі, падацца на Поўнач. Перахапіла. Забрала ў пашпартысткі пашпарт, схавала. Пераканала: нельга! Нельга ў тых шыротах быць зімой непадрыхтаваным. Без валёнак. Без добрага футравага адзення.

Але сын настойваў: мама, я не магу жыць у гэтым горадзе. Стаміўшыся ад барацьбы, Наталля Паўлаўна ўступіла. Дапамагла сабраць Мікалаю рэчы. Правяла на чыгуначны вакзал. Сама паставіла чамадан у камеру захоўвання, настаўляючы: набірай нумар дома, кватэры — такі код з памяці сякерай не высечаш.

А дамоў вярнулася — сэрца не на месцы. Ну што яму тая Поўнач: ні родных, ні знаёмых! Хіба што рубель даўжэйшы, чым у маці. Дык і ён у мужчынскіх інтэрнатах, дзе няма беражлівага жаночага вока, між пальцаў выслізне.

Перамагла сябе. Паклікала малодшую дачку Галю. «Дачка, — заспяшалася, адводзячы вочы, — пойдзем, пойдзем хутчэй! Забяром чамадан — без рэчаў не паедзе...» На вакзал не ішлі, а беглі, закранаючы прахожых, не разбіраючы дарогі. Прыйшлі — а ля камеры міліцыянер. Нахабна-ліслівы, пытаннямі так і засыпае. І пра тое яму скажы, і пра гэта...

## 4.

«ЗАБРАЛІ МЯНЕ на рабоце. Пасадзілі ў чорную «Волгу». «Навошта? — кажу, — жыву ж побач!» Не, саджаюць, вязуць. Прыехалі — патрэбны паняты. Запрашаюць суседку з 60-й кватэры. Раз-другі — яна ні за што. «Дусечка, — ужо сама прашу. — Пойдзем. Я не пакрыўджуся».

Паказалі санкцыю. Пачаўся вобыск. Адкрываю канапу. Потым сервант. Нічога няма. «Што шукаеце?» — пытаю. «Электрычную брытву», — кажуць, і далей ідзе цэлы набор: світэр, начная сарочка, парасон, гадзіннік, штроксавыя жаночыя штаны. Шукалі ўсюды навокал — нічога. «Распішыцеся!» На пратаколе пералічаны названыя рэчы, а справа, супраць пярэчання, вялікая літара «зэт».

Распісалася я, і так крыўдна мне стала. «Дык вы ж не ўсё,—кажу,—абшукалі. У мяне яшчэ падвал ёсць». Спусціліся ў падвал. Там у мяне стаяў стары, скрыўлены «Запарожац». Мужа нябожчыка на прыроду на ім вывозіла, а на паліцы два новыя скаты ляжалі. У орсаўскім магазіне купленыя. Купляла ж я чатыры.

Паехалі яны, нічога не сказаўшы. Праз гадзіну, гляджу, вяртаюцца. «Возьмем у вас скаты да высвятлення». — «На якое высвятленне?» — «Сын казаў, што ўкраў іх». — «А колькі ён украў?» — «Як колькі? Два». — «Э-э, не, — кажу, — госці добрыя, тут у вас прамашка выйшла. Ён павінен быў сказаць: чатыры! Чэкаў я не захавала. А вы захоўваеце?! Даведкі? Даведкі можаце навесці — гэта ваша работа. А скаты гэтыя возьмеце толькі праз мой труп!» — «Глядзіце, — цісну ць, развітваючыся, на псіхіку, — каб ціха было!» — «Гучней не бывае! — кідаю раззлаваўшыся. — У кватэры вобыск. Суседзі ведаюць. На рабоце бачылі, як вы «карэту» падавалі... Чаго ўжо тут маўчаць!..»

## 5.

КАЛІ НАТАЛЛЯ ПАЎЛАЎНА кідала жменю зямлі на труну мужа, думала: доўгая смерць — страшная смерць, не па Сцяпанавых грахах, жэрабя падмётнае. А як на сына замахнуліся смяротным прыгаворам, прасвятлела — чорным святлом свяціць у вочы сонца, жывую хавае.

Два спатканні было ў маці з прыгавораным сынам. Першае ў Віцебску. У двух кроках стаяла Наталля Паўлаўна ад Мікалая, а не абняць, не заспакоіць. Шкло перагародкі ў пакоі для спатканняў — шкло-канваір. Гаварылі па тэлефоне: трубка маці, трубка сыну.

— Мамачка, я не забіваў. Падавай на перарасследаванне. Я не забойца. Я не вінаваты!

— Сынок, я ж была на судзе. Я чула, што ты сам асабіста гаварыў: «Я трымаў за рукі, Кадушкіна штурхала кляп гэтай дзяўчынцы».

— Эх, мама, калі б цябе кінулі на цэментавы «ложак», і ты б апрытомнела ў крывавай пене — ты б не тое сказала. Калі б ты ведала, колькі я вынес пакут!

— Сынок, коцік мой, мяне таксама катавалі. У Германію забіралі, да паўсмерці білі... Навошта ж ты нагаварыў на сябе?

— Мама, мамачка, селядцом гнілым і сухім цябе не кармілі. Тры дні без вады не трымалі. Перад судом уколаў не рабілі. У карцар не саджалі...

— У карцар... А што такое карцар, сынок?

— Гэта, мама, камера такая — ні легчы, ні сесці. У суткі шклянку вады і кавалак хлеба... Пратрымалі тры дні і сказалі: «Цярэня, возьмеш ты забойства на сябе, не возьмеш — усё роўна мы табе чорным чарнілам крыж паставім на лбе».

— Як гэта, сыночак, крыж на лбе?

— Ну, расстраляюць, мама. Па прыгавору...

А яшчэ расказваў маці сын, як вазілі яго з Віцебска ў Полацк.

— Спыніліся. Дазволілі выйсці «па-маленькаму». Я — у наручніках. Следчы побач ідзе і гаворыць у спіну: «Цярэня, бяжы!» Першы раз я зрабіў выгляд, што не чую. Ён зноў: «Цярэня, бяжы!» Я павярнуўся: «Каб ты мне кулю ў патыліцу — і пабег аформіў?» Калі вярталіся да машыны, ён ударыў мяне ззаду што было сілы — я тыдзень потым не мог сесці на копчык...

Мінск пакінуў у сіле віцебскі прыгавор. Да другога спаткання Мікалай моцна здаў.

— Мама, што дома? — спытаў з-за перагародкі.

— Сынок мой даражэнькі, — галубом забілася аб ненавіснае шкло мацярынская душа, — што дому таму стане! Як ты?..

Тут з-за спіны асуджанага высунуўся плячысты наглядальнік:

— Ваш час скончыўся. Заканчвайце спатканне!

Падштурхваемы ў спіну, Мікалай упёрся дзвюма рукамі ў касяк турэмных дзвярэй, павярнуўся зямлістым тварам да маці, крыкнуў:

— Мамачка, да пабачэння!

Потым яшчэ раз, толькі цішэй:

— Мамачка, бывай!..

Дванаццаць гадоў гэты крык пранізвае мацярынскае сэрца. Наталля Паўлаўна абхадзіла ўздоўж і ўпоперак суды і пракуратуры Віцебска, Мінска, Масквы. Няма ў ёй злосці і помсты. Расстралялі і спалілі ў крэматорыі — дык аддайце жменю попелу. Пакажыце аршын зямлі, што прыняў прах яе сына.

Але штампуе бюракратычны «аўтаадказчык» кампетэнтных органаў ні да чога не абавязваючыя адпіскі. Не дае прамога адказу. Вядзе па замкнёнаму кругу няшчасную жанчыну. А маці спадзяецца. Шукае ў недагаворанасці патаемны сэнс. Раздзімае жар неастылай веры: няхай пакутнік, няхай у сутарэнні, няхай у рудніках — але жывы яе сын.

Нядаўна на ўсяночнай у царкве была, ставіла свечкі Наталля Паўлаўна. Бацюшку спіс памінальны падавала. Супраць імён памерлых вывела цвёрдай рукой: за памін душы. Супраць імені сына Мікалая напісала: за здароўе.

## 6.

### ДАВЕДКА

24 верасня 1986 года на бюро ЦК КПБ было разгледжана пытанне «Аб грубых парушэннях сацыялістычнай законнасці, дапушчаных работнікамі праваахоўных органаў пры расследаванні і разглядзе ў судах шэрагу цяжкіх злачынстваў, учыненых у Віцебскай вобласці».

У пастанове бюро адзначаецца, што партарганізацыямі Віцебскай вобласці, горада Мінска прыцягнуты да строгай партыйнай адказнасці 69 камуністаў — работнікаў праваахоўных органаў, 13 выключана з членаў КПСС. Пракуратурай СССР і Пракуратурай БССР, МУС БССР пакарана ў дысцыплінарным парадку 11 работнікаў, звольнена з органаў і адклікана з саставу суддзяў 23 чалавекі...

Загадчык сектара прыёму грамадзян А. КРАСУЦКІ.

19 лістапада 1990 г.

### ДАВЕДКА ПА СПРАВЕ ЦЯРЭНІ М. С.

Шайпук А. В., 1961 года нараджэння, навучэнка Мінскага ГПТВ-12, выяўлена 09.09.79 у зав. Кандраценкі г. Полацка з прыкметамі гвалтоўнай смерці ад задушэння. Па гэтай справе прыцягнуты да крымінальнай адказнасці за забойства Шайпук А. В. і Віцебскім абласным судом асуджаны па арт. 100 і 143 КК БССР Цярэня М. С. — да выключнай меры пакарання і Кадушкіна Л. В. — да 15 гадоў пазбаўлення волі. У адпаведнасці з пратэстам пракурора БССР прыгавор па справе 30.07.86 Вярхоўным судом БССР адменены. Справа ў адносінах Цярэні і Кадушкінай спынена.

Расследаванне па справе вёў былы следчы пракуратуры г. Полацка Кірпічонак П. І., які дапусціў неаб'ектыўнасць, захапіўся адной версіяй, неабгрунтавана прыцягнуў Цярэню і Кадушкіну да крымінальнай адказнасці за забойства Шайпук, вынес пастанову аб іх арышце і склаў абвінаваўчае заключэнне.

Абвінаваўчы прыгавор па справе складзены на аснове паказанняў Кадушкінай, якая неаднаразова іх мяняла, і сведкі Крадзецкага В. А., які даў непаслядоўныя паказанні. Іх паказанні былі супярэчлівыя.

Кадушкіна ў розны час называла чатыры розныя месцы, дзе нібыта яна з Цярэнем хавала ўкрадзеныя ў Шайпук рэчы, аднак іх там у сапраўднасці не аказалася. Былі абвергнуты яе паказанні і ў частцы наяўнасці ў яе пры затрымцы алоўка і губной памады, узятыя ў Шайпук. Сяброўка Шайпук — Генчык пры прад'яўленні ёй гэтых прадметаў заявіла, што Шайпук карысталася не такімі касметычнымі сродкамі.

Пасля затрымання Міхасевіча Кадушкіна заявіла, што яна і Цярэня агаварылі сябе ў забойстве Шайпук у выніку прымянення да іх незаконных дзеянняў з боку работнікаў міліцыі і пракуратуры.

Сведка Крадзецкі В. А. 27.08.86 заявіў, што работнікі міліцыі да яго таксама прымянялі незаконныя дзеянні, і ён вымушаны быў даць хлуслівыя паказанні на Кадушкіну і Цярэню, што ў першай пасля забойства Шайпук у чамадане бачыў жаночыя рэчы, а ў Цярэні — каля васьмі дзесяцірублёвых купюр грошай, што не адпавядала сапраўднасці.

Следчы пракуратуры горада Полацка Кірпічонак П. І., які праводзіў расследаванне па справе, у 1986 годзе звольнены на пенсію, выключаны з членаў КПСС, у 1988 годзе памёр.

Санкцыю на арышт Цярэні і Кадушкінай даў пракурор г. Полацка Конышаў Ф. А., які ўжо памёр.

Спірыдзёнак О. І., намеснік начальніка следчага ўпраўлення пракуратуры Віцебскай вобласці, які аказваў некваліфікаваную дапамогу пры раскрыцці і расследаванні гэтага злачынства,—звольнены з органаў пракуратуры, выключаны з членаў КПСС, Пракуратурай СССР прыцягнуты да крымінальнай адказнасці, справа накіравана ў суд, але вернута на расследаванне.

Дуброўскі Н. Ф. — намеснік пракурора Віцебскай вобласці, які зацвердзіў абвінаваўчае заключэнне і накіраваў справу ў суд, — памёр.

Філіпкоў І. П., начальнік аддзела пракуратуры Віцебскай вобласці, які арыентаваў суд на вынясенне несправядлівага прыгавору, — звольнены на пенсію, выключаны з членаў КПСС.

Дударэнка А. А., пракурор аддзела пракуратуры БССР, што пры разглядзе справы па касацыйнай скарзе ў Вярхоўным судзе даў няправільнае заключэнне, — 18.07.86 звольнены з органаў пракуратуры, аб'яўлена вымова па партыйнай лініі.

Магільніцкі А. І., пракурор БССР, што падпісаў заключэнне ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР аб вяртанні скаргі Цярэні аб памілаванні без задавальнення, — звольнены з органаў пракуратуры.

Першы намеснік пракурора БССР дзяржаўны саветнік юстыцыі 3 класа В. К. КАНДРАЦЬЕЎ.

16.11.90 г.

У дамашнім архіве Наталлі Паўлаўны Цярэні шмат такіх дакументаў — пачцівых, пакаянных, запознена спачувальных. Адрасаваныя ёй, яны ў прынцыпе прызначаны для ўсіх нас. Каб абуджаць маральнае пачуццё. Каб напамінаць аб вышэйшым з судоў — судзе сумлення.

**Уладзімір ФАКЕЕЎ.**

Галоўны рэдактар У. Б. НАРКЕВІЧ.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў—32-04-52, 32-41-92, навін—32-15-02, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.

ПА НУМАРУ ДЗЯЖУРЫЛІ: член рэдакцыйнай калегіі Іван Бараноўскі, першы намеснік адказнага сакратара Яўген Ляхаў, старшы карэктар Вікторыя Кляновік.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Тыраж 81.098. Індэкс 63850. Зак. № 16. Выходзіць 250 разоў на год. Нумар падпісаны ў 21.05.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

## ХАТНЯМУ МАЙСТРУ

### Пра дзверы і вокны...




1. Калі дзверы сталі ніжнім бокам чапляцца за падлогу, іх неабавязкова знімаць з петляў. Трэба пад вугал іх падсунуць добра разведзеную сталярную нажоўку, стаць на яе нагой і некалькі разоў энергічна адчыніць і зачыніць дзверы.

2. Іншы раз, асабліва ў новых кватэрах, расхістваюцца каробкі ўваходных дзвярэй. Для іх замацавання трэба ў каробцы і ў тарцы сцяны прасвярліць 2—3 адтуліны (зверху ўніз) з кожнага боку. У адтуліны забіць драўляныя шпунты, а ў шпунты ўкруціць металічныя стрыжні.

3. Надзейна працуе і добра трымае дзверы набойка з гумавага шланга. Прыбіваючы яе да касяка, не забудзьцеся пад галоўкі цвікоў падкласці шайбы.

4. Ад уваходных дзвярэй менш будзе дзьмуць, калі шчыліну паміж дзвярамі і касяком (з боку шарніраў) закрыць палоскай поліэтыленавай плёнкі. Яе можна замацаваць канцылярскімі кнопкамі. Каб не дзьмула пад дзверы пакояў, не пранікалі шум, пыл і пахі, на іх ніжні тарэц прыбіце валік для ўшчыльнення з палоскі сукна або іншага шчыльнага матэрыялу.

61

Калі дзверы лёгка знімаюцца з петляў, іх мацуюць, як паказана на мал. А. Калі не знімаюцца, — то як на Б і В.




5. Маленькі кавалачак графіту, калі пакласці яго ў шчыліну прыўзнятай пятлі, пазбавіць вас ад рыпення. Графіт разатрэцца ў парашок і будзе доўга служыць у якасці выдатнай змазкі.




6. Кропля алею, пушчаная ў пятлю, таксама пазбавіць вас ад рыпення.




7. З наступленнем зімы ў людзей, якія жывуць у гарадскіх кватэрах, узнікаюць чыста зімовыя праблемы. Вось дзве з іх: уцяпленне балконных дзвярэй, якія часта служаць крыніцай ахаладжэння пакоя, і захоўванне запасаў агародніны і саленняў. Абедзьве гэтыя праблемы можна вырашыць пры дапамозе шафы-халадзільніка, устаноўленай у балконных дзвярах. Яна ўяўляе сабой драўляную скрыню, адзін бок якой закрыты і звернуты да пакоя, другі, адкрыты, — да балконных дзвярэй. Шафа добра ізалюе памяшканне ад холаду, унутры яе захоўваецца тэмпература ад нуля да некалькіх градусаў цяпла. Памеры вызначаюцца месцам, якое яна будзе займаць. Верхняя накрыўка — на ўзроўні падаконніка, шырыня — па праёму дзвярэй. Такім чынам у вас падоўжыцца падаконнік. Шырыня бакавых сценак павінна перакрываць шчыліны балконных дзвярэй. Шафу можна ўстанавіць на маленькія колы або падбіць знізу лямец. Тарцы сценак акантуйце двайной палоскай шчыльнай тканіны. Адрэгулюйце нахіл шафы так, каб усе тарцовыя бакі шчыльна прылягалі да балконных дзвярэй. Бок, звернуты да пакоя, пафарбуйце пад колер сцен.

62

## ПАРАДЫ СА СТАРАЖЫТНАЙ КНІГІ

### Нервы

Ракавінныя, уліткападобныя костачкі з вушэй малочных парасят стаўчы ў парашок і прымаць па адной лыжцы на працягу 10 дзён. Збіраць гэтыя костачкі можна з вараных і смажаных парасят.

### Запой

Калі пачынаецца запой, дык не трэба перашкаджаць у гэтым, а, наадварот, уліваць пакрысе гарэлку ў ежу і пітво хворага, апырскваць прадметы і выціраць гарэлкай усё яго цела. Спачатку ён будзе адчуваць быццам бы задавальненне, потым жа пачне прасіць пазбавіць яго ад гэтага. Але, нягледзячы на просьбы, усё працягваць да таго часу, пакуль не пачнецца пералом хваробы. Тады даваць штодзённа вечарам па парашку ў 5 грамаў хініну для таго, каб зняць гарачку, паіць моцнай, без вяршкоў, кавай і даваць лёгкую пажыўную ежу і малако. У дзень параксізму рабіць ванны з цёплай вады, класці ў іх спачатку па 1 фунту кухоннай солі, збаўляючы праз дзень па $^{1}/_{8}$ фунта.

### Кашаль каровы

Даваць карове раніцай і вечарам серу, намазаўшы яе на хлеб. Кашаль хутка спыніцца.

### Блохі

Самым простым сродкам ад блох служыць трава палын. Трэба пакласці некалькі былінак на пасцель (лепш пад прасціну), і тады блохі знікнуць.

### Пра чыстку зубоў

На пытанне, ці трэба чысціць зубы? — прырода нічога не адказвае нам. Бясконцыя статкі жывёлы і цэлыя нацыі да глыбокай старасці захоўваюць зубы свае ў здаровым і цудоўным стане, за ўсё жыццё не дакрануўшыся да іх ні зубной шчоткай, ні зубачысткай.

Для здаровых зубоў здаровая сліна і жаванне — лепшыя ачышчальныя сродкі. Чыстка шчоткамі і зубачысткамі для іх залішняя. Здаровыя зубы звычайна стаяць так шчыльна, што рэдка паміж імі застаецца што-небудзь з ежы, а калі ў некаторых і здараецца гэта, дык лепш за ўсё вычышчаць языком тое, што засела паміж зубамі.

Калі ж зубы хворыя, тут, канешне, патрэбна чыстка. Адзін амерыканскі ўрач рабіў мікраскапічнае даследаванне наконт жывёльных і раслінных чужародных рэчываў, што раз'ядаюць зубы, і высветліў, што тытунёвы дым і тытунёвы сок, гэта ж, як і сода, хлорная вада і вуглякіслы аманіяк, зусім іх не разбураюць. Але ўжыванне мыла знішчыла іх у тую ж мінуту. З гэтага можна заключыць, што мыла ёсць самы лепшы сродак для чысткі зубоў.

63

## РЫБАЦКІЯ ЗГАДКІ

### Калі рыба не клюе

Гавораць, што рыба шукае, дзе глыбей. Не заўсёды і не ўсякая рыба. Навагу, згодны, зімой лепш лавіць на самым дне, а вось корушку-зубатку — у 70 сантыметрах ад яго, корушку-маларотку — у метры. Але ўжо ў сакавіку— пачатку красавіка маларотка ў асобныя дні ловіцца амаль пад лёдам, а зубатку можна выцягнуць з глыбіні ўсяго ад пяці да сямі метраў.

Больш складанае іншае пытанне: як вымераць адлегласць да дна, вызначыць, на якой вышыні «клюе» сёння? На ціхай, спакойнай вадзе, у закрытых бухтах часта прымяняюць глыбінямеры — так званыя «вадалазы». Яго прычэпліваюць да блешні і, вызначыўшы ўзровень грунту, здымаюць. Я «вадалазам» не карыстаюся. Ні ў спакойных гаванях, ні тым больш у праліваx і адкрытых акваторыях з падводным цячэннем. Чаму? Калі вы знімеце глыбінямер і закінеце аблегчаную вудачку ў лунку, яе аднясе на вялікую адлегласць, разлік напэўна акажацца недакладным. Лічу за лепшае замяраць глыбіню заўсёды і ўсюды толькі грузілам, замацаваным на вудзільне, г. зн. звычайнай аснасткай. Але на працягу дня трэба некалькі разоў паўтараць замеры — інтэнсіўнасць цячэння можа мяняцца.

І апошняе. Можна зрабіць усё «па навуцы» і не дабіцца плёну. Гэта значыць, што рыба «жартуе»: падымаецца на недакладныя вышыні, часам вельмі блізка да паверхні. Не трэба расстройвацца з-за таго, што рыба не клюе. Паназірайце за суседзямі: за колькі «махаў» яны вылоўліваюць корушку? Падлічыце свае «махі» і смела ўкарочвайце леску. Улічваючы масавасць апошняй рыбалкі, суседзі-аматары заўсёды знойдуцца.

64